*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 39(147) ◈ 29 верасня 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



**Выканкам ЦР БСДГ распаўсюдзіў заяву «У сувязі з указам прэзідэнта Ельцына аб паэтапнай канстытуцыйнай рэформе», у якой, у прыватнасці, гаворыцца: «...апошнія ўказы прэзідэнта Б. Ельцына былі выкліканы канфрантацыйнымі паводзінамі ВС Расіі, які блакіраваў выхад з крызісу ўлады, і абумоўлены ў многім супярэчлівымі і недасканалымі палажэннямі існуючай канстытуцыі РФ, прынятай яшчэ ў брэжнеўскі перыяд». Выказаўшы спадзяванне, што ў кіраўніцтва і народа Расіі хопіць мудрасці і вытрымкі для цывілізаванага выйсця са становішча, якое склалася, ЦР БСДГ звяртае ўвагу, што праект новай канстытуцыі Беларусі мае хібы, уласцівыя дзеючай канстытуцыі Расіі.**

**Выканкам ЦР БСДГ лічыць, «што дзеянні прадстаўнікоў праўрадавага наменклатурнага дэпутацкага аб'яднання «Беларусь» і іншых праімперскіх сіл накшталт Народнага руху Беларусі, якія ініцыіруюць апошнім часам «звароты» і «кангрэсы» з мэтай утварэння «канфедэрацыі» з Расіяй, «аднаўлення адзінай дзяржаўнасці» з'яўляюцца спробай адцягнуць увагу грамадскасці краіны ад поўнага банкрутства ўрада В. Кебіча, які гэтыя сілы падтрымлівае». Беларусі патрэбны рэформы, а не балбатня пра іх, таму выканкам ЦР БСДГ прапануе ўсім дэмакратычным партыям, рухам, арганізацыям і прадпрымальнікам правесці да пачатку чарговай сесіі ВС Рэспублікі Беларусь усебеларускую канферэнцыю па праблеме ўтварэння Кааліцыйнага ўрада народнага даверу і шляхах выхаду Беларусі з эканамічнага і палітычнага крызісу.**

**ІДУЧЫ НАСУСТРАЧ ПАЖАДАННЯМ ГРАМАДСКАСЦІ і з улікам прапаноў дзяржаўных устаноў Рэспублікі Беларусь, Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову «Аб удакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы». Створана Дзяржаўная камісія па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы, у якую ўвайшлі пісьменнікі В. Зуёнак, А. Клышка, Я. Брыль, Б. Сачанка, І. Навуменка, мовазнаўцы А. Падлужны, А. Крывіцкі, А. Булыка, першы намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Л. Сухнат і іншыя. Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Н. Гілевіч узначальвае створаную камісію, якой і даручана ў 6-месячны тэрмін унесці ў Савет Міністраў прапановы аб удакладненні існуючага правапісу беларускай літаратурнай мовы, а таксама падрыхтаваць новы звод правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.**

*Але!*

## Кангрэс «народа», а дзеянні антынародныя...

«Кангрэс народа (!) Беларусі» ўскалыхнуў грамадства нашай дзяржавы. Зусім, праўда, не тымі эмоцыямі, што прысутнічалі ў зале былога Дома палітасветы. Прычына — заявы, якія там былі зроблены.

У рабоце кангрэса, арганізаванага «Народным (?!) рухам Беларусі», акрамя дэлегатаў, якія прадстаўлялі левае (камуністычнае) крыло ў грамадска-палітычным калейдаскопе рэспублікі, прымала ўдзел вялікая група народных дэпутатаў нашага Вярхоўнага Савета. Іх выступленні зводзіліся да аднаго: хопіць займацца глупствам, хопіць гуляць у псеўдадэмакратыю, настаў час... паяднання прастораў былых рэспублік СССР у адзіную (?!) дзяржаву. Менавіта такі поўны палітычны саюз, а не эканамічны — ёсць магчымае выйсце Беларусі з крызісу, на іхні погляд.

Значыць, дзяржаўны суверэнітэт, незалежнасць — гэта ўсё гульня? Атрымліваецца, «гульнёй» можна лічыць гістарычнай прадвызначанае, атрыманае беларусамі права на адраджэнне ўласнай дзяржаўнасці?.. Праўда, у дакладзе старшыні «Народнага руху Беларусі» Сяргея Гайдукевіча прагучала адна дзіўная па сённяшняму разуменню рэч: маўляў, сапраўды незалежнай і суверэннай Беларусь яшчэ і не была(?!)... у складзе Савецкага Саюза з 1922 па 1991 гады.

Па меркаваннях удзельнікаў кангрэса (а імі ў асноўным з'яўляліся сталага ўзросту прадстаўнікі ПКБ, ДСПС, «Славянскага сабора», моладзі было вельмі мала), іх ідэі тэрмінова паяднання з Расіяй падтрымлівае дзевяноста працэнтаў насельніцтва Беларусі. Невядома, паслугамі якога колеру сацыёлагаў карысталіся аўтары даклада і прамоўцы на кангрэсе.

Што да духоўнага жыцця Беларусі, беларускага народа, то сённяшні яго стан, па меркаванні С. Гайдукевіча, вызначаецца негатыўнай і небяспечнай экспансіяй з Захаду. Дададзім, што дэлегаты кангрэса змагаюцца за дзяржаўнае двухмоўе, падкрэсліваючы, быццам кволыя парасткі беларускага Адраджэння носяць... гвалтоўны характар.

Калі ж вы блізкія да народа, да рэальнага бачання жыцця, шаноўныя лідэры «народнага» руху Беларусі, то няўжо не бачыце, што супрацьўленне і гвалт, сапраўды здзек чыняцца менавіта беларускай мове? Невядома, што меў на ўвазе Сяргей Гайдукевіч, гаворачы і пра згвалчанне айчыннай гісторыі... Пэўна ж, так не даспадобы кансерватыўным, традыцыйна савецкім гісторыкам вяртанне праўды пра мінуўшчыну нашай Бацькаўшчыны?

Самымі ганаровымі і пачэснымі гасцямі кангрэса былі адыёзныя расійскія палітыкі: Сяргей Бабурын (і смешна і ніякавата было назіраць, як рашуча ён распараджаўся лідэрам пракамуністычнай «саўмінаўскай» фракцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі такім звычайна самаўпэўненым Генадзем Казловым), Віктар Алксніс, пракляты ўласнай латышскай раднёй, злавесны генерал КГБ у брэжнеўскія часы, Аляксандр Сцерлігаў, многія іх паплечнікі. Па ўсім відавочна, Беларусь ізноў становіцца ідэальным палігонам для адпрацоўкі іх ідэй па чарговай спробе аднавіць імперыю.

Міхал ГЛАГОЛЕЎ.

*Вучымся*

## СВЕТ ХІЛІЦЦА ДА БЕЛАРУШЧЫНЫ

***Гутарка са спадаром Уладзімірам Навумовічам, дырэктарам Міжнароднай школы беларускай мовы, літаратуры і культуры пры Беларускім дзяржаўным універсітэце.***

*— Каторы год працуе Міжнародная школа беларусістыкі?*

— Мы пачыналі ўлетку 1990 года. То, значыць, сёлета мы ўжо трэці раз прымалі аматараў беларушчыны.

*— Ці пашыраецца ў свеце кола прыхільнікаў і аматараў нашай мовы, літаратуры і культуры?*

— Хаця летась у нас было больш слухачоў, але значная частка іх была беларусамі паводле свайго паходжання, дзецьмі і ўнукамі эмігрантаў. Прыязджалі і суайчыннікі з Беласточчыны. Але яны ў ліпені ўжо наведалі радзіму продкаў, калі сабраліся на Першы з'езд беларусаў свету. Таму, відаць, на нашых курсах з 4 па 21 жніўня сабраліся толькі тыя, хто зусім нядаўна даведаўся пра беларусаў і ў дзяцінстве нават не ведаў, што ёсць такая краіна — Беларусь.

*— Нядаўна я размаўляў з адным менскім навукоўцам, які вярнуўся з Швецыі. Дык ён казаў, што мытнік у Стакгольмскім аэрапорце нават бегаў некуды пытацца, ці праўда, што існуе такая рэспубліка.*

— А вось да нас сёлета прыехаў вучыцца беларускай мове Рунасаке Курода, нашчадак старажытнага самурайскага рода. Як бачыце, і людзей з-за свету, як кажуць, наша Радзіма вабіць. А гэты аспірант ведае некалькі моў, добра размаўляе парасійску. Ды калі даведаўся пра Скарыну, зацікавіўся і краем славутага друкара. Ён у захапленні ад нашай мовы, літаратуры...

*— Я разумею, ён адкрыў для сябе незвычайны, багаты свет. Нашы ж звышінтэрнацыяналісты не любяць свайго, а толькі захапляюцца замежнай літаратурай...*

— А японец марыць перакладаць Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча... Відаць жа, ён адчувае, што і яго суайчыннікам трэба ведаць творы беларускіх пісьменнікаў.

*— Ён ужо настолькі добра ведае нашу мову?*

— Не, яшчэ слаба, хаця шмат што, як казаў, разумее. Дарэчы, ён зачараваны не толькі нашай мовай, але і Менскам, і хоча нават прыехаць сюды вучыцца, у БДУ.

*— Пэўна ж, не на менскіх вуліцах такійскі аспірант зачараваўся нашай мовай.*

— У нас было каго паслухаць. Заняткі вялі выкладчыкі філалагічнага факультэта кандыдат філалагічных навук Таццяна Піліповіч, Генадзь Гавароўскі. У нас чыталі лекцыі Анатоль Грыцкевіч (гісторыя рэлігіі на Беларусі), Вячаслаў Шалькевіч (Каліноўскі і яго час), Анатоль Сідарэвіч (гісторыя Беларусі), Генадзь Цыхун (станаўленне і перыяды развіцця беларускай мовы), Галіна Барташэвіч (каляндарныя абрады і святы)...

*— Я зайздрошчу вашым слухачам.*

— З пачаткоўцамі, а гэта Рунасаке Курода і француз Калін Дзідзье, займалася выкладчык Інстытута замежных моў Надзея Мікус.

*— Ці былі слухачы з Нямеччыны?*

— Прыязджала спадарыня Хрысціна Глыбоўская. Яна выкладае беларускую мову ў Йенскім універсітэце.

*— А з бліжэйшых, суседніх славянскіх краін?*

— Не, былі толькі з далёкай Македоніі. Групу студэнтаў — славістаў, эколагаў, этнографаў — прывёз сёлета прафесар Максім Каранфілаўскі з універсітэта «Святых Кірылы і Мяфодзія», які знаходзіцца ў горадзе Скоп'е. Студэнты-філолагі гэтага універсітэта ўжо два семестры вывучалі беларускую мову, а з сёлетняга навучальнага года на філалагічным факультэце яна будзе вывучацца як другая замежная. Гэтыя дзевяць юнакоў і дзяўчат добра гавораць пабеларуску.

*Заканчэнне на с. 3.*

*Вучымся*

# Свет хіліцца да беларушчыны

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

**— *Вы, пэўна ж, не абмежаваліся заняткамі і лекцыямі?***

**— Мы падрыхтавалі добрую культурную праграму. Нашы слухачы наведалі літаратурныя музеі Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Нацыянальную мастацкую галерэю, Гістарычны музей. Але найбольшае ўражанне засталося ад Музея старажытнай беларускай культуры, створанага супрацоўнікамі Акадэміі навук Беларусі. Вазілі іх на экскурсіі ў Мір, Нясвіж, у Мікалаеўшчыну і ў Вязынку.**

**— *Мабыць, і спявалі ў дарозе?***

**— Не толькі ў дарозе. Старшы выкладчык кафедры беларусазнаўства Людміла Хрышчановіч вучыла нашых гасцей спяваць беларускія народныя песні. І рабіла яна гэта цікава, займальна, спявалі танцуючы, у карагодах. Моладзі гэта вельмі спадабалася. Паслухалі яны і харавую капэлу БДУ, гурт «Камэлот», наведалі гасцёўню двух Алегаў: паэта Алега Лойкі і барда Алега Атаманава.**

**— *Павезлі з сабой не толькі дыпломы аб заканчэнні курсаў, але і добрыя ўспаміны.***

**— І беларускія народныя песні. Мы самі, на ксераксе, выдалі невялічкі зборнічак нашых песень «Медунічка». У ім — папулярныя народныя песні з нотамі і каментарам ды перакладам некаторых адметных беларускіх слоў, што зрабіў наш даўні сябра Фердынанд Нойройтар, прафесар Зальцбургскага універсітэта.**

**— *Дзякуй Вам, спадар Навумовіч, за прапаганду беларушчыны і за гутарку.***

**Гутарыў Здзіслаў СІЦЬКО.**

*Меркаванні*

***Уладзімір СТАРЧАНКА, старшыня Гомельскай гарадской кансультатыўнай рады «Адраджэнне»***

# ТРЫ КАРАНІ ВЫЖЫВАННЯ

ШТО можна проціпаставіць сёння добра арганізаванаму антыбеларускаму руху? Як зберагчы і адстаяць незалежнасць Бацькаўшчыны, захаваць мір і дабрабыт у беларускіх хатах?

Шлях да гэтага добра вядомы — адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры, як адзіна магчымага для нас спосабу існавання ў свеце. Гэта справа вельмі і вельмі складаная. Таму тут не абыдзешся без стварэння нейкай мадэлі нацыянальнай культуры.

Прапануючы ўвазе чытачоў свае меркаванні, хачу спадзявацца на іх шчырасць і непадузрасць. Сёння, калі нарэшце гэтага маўчаць дзяржава і нашыя дзяржаўныя інстытуты, час загаварыць грамадзянам.

## Аб культуры нацыянальнай

Нацыянальная культура ёсць сукупнасць матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, што створаны нацыяй як супольнасцю людзей, якія маюць агульную гісторыю, мову і рысы нацыянальнага характару, на падставе чаго ўсведамляюць сваю адметнасць і непадобнасць да іншых. Нацыянальная свядомасць — умова захавання і развіцця любой нацыянальнай культуры. Народ, пазбаўлены нацыянальнай свядомасці, не можа мець сваю адметную нацыянальную культуру, бо ён непазбежна паступова страчвае ўласную гісторыю, мову, апошнія адметныя рысы нацыянальнага характару і памірае.

Нацыянальная культура ствараецца народам праз нацыянальную свядомасць, якая ўсталёўваецца і мацуецца на глебе нацыянальнага характару, нацыянальнай мовы і нацыянальнай гісторыі. Апошнія, у сваю чаргу, вынікаюць (з рознай ступенню залежнасці) з нацыянальнага генатыпу і фенатыпу народа (гл. схему).




З трох каранёў нацыянальнай свядомасці найбольшую трываласць да знешніх уплываў мае **нацыянальны характар,** бо ён у найбольшай ступені вызначаецца генетычным кодам народа. Меншую сувязь з генатыпам і фенатыпам народа мае **нацыянальная мова.** Таму яна больш паддаецца ўплыву вонкавых фактараў і ва ўмовах мэтанакіраванай і дастаткова працяглай асіміляцыйнай моўнай палітыкі можа быць нават страчана. Яшчэ меншую трываласць мае **гістарычная памяць народа,** бо яна ў найменшай ступені вызначаецца генетычнымі фактарамі і непасрэдна з іх не вынікае. Ва ўмовах акупацыі пазбавіць народ ведаў пра ўласную гісторыю найбольш проста, нацыянальнай мовы — больш складана, нацыянальнага характару — надзвычай цяжка.

Уплыў, які аказвае на нацыянальную свядомасць народа кожны з пазначаных каранёў, таксама не раўнаважны. Але тут усё наадварот. Найбольшы ўплыў на ўзнікненне і захаванне нацыянальнай свядомасці мае праз гістарычную памяць нацыянальная гісторыя, меншы — нацыянальная мова і яшчэ меншы — нацыянальны характар.

## Аб узаемадачыненнях культур

Культуры розных народаў непазбежна ўступаюць у кантакт і абавязкова ўплываюць адна на адну. У натуральных умовах гэтыя стасункі з'яўляюцца карыснымі, бо садзейнічаюць узаемаўзбагачэнню культур, больш гарманічнаму развіццю кожнай з іх. Але як толькі пачынаецца экспансія адной культуры супраць іншай, то узаемаўзбагачэнне заўжды змяняецца вынішчэннем. Гвалтоўная культурная экспансія ёсць злачынства, нават калі яна ажыццяўляецца выключна сродкамі масавай інфармацыі. Тым больш такая экспансія зусім не мае апраўдання, калі яе ажыццяўленне забяспечваецца эканамічным закабаленнем або акупацыяй, штучным пазбаўленнем народа нацыянальнай свядомасці праз забарону мовы і скажэнне гісторыі.

Як сведчыць гістарычны вопыт, натуральныя ўмовы для развіцця нацыянальнай культуры могуць быць створаны толькі ў незалежнай нацыянальнай дзяржаве, якая клапоціцца пра належныя ўмовы для падтрымання высокага ўзроўню нацыянальнай свядомасці (найперш праз надзейную абарону нацыянальнай мовы і гістарычнай памяці народа, захаванне народных традыцый).

Кожная культура мае права бесперашкодна панаваць у межах этнічнай тэрыторыі народа, які з'яўляецца яе творцам. Ніводная іншая культура не мае права рабіць замах на гэтае натуральнае права.

## Аб культуры беларускай

Беларуская нацыянальная культура ёсць сукупнасць матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, створаных беларускім народам у мінулым і сучасным на побытавым, мастацкім, навуковым і духоўным узроўнях. Гэта таксама адзіна магчымы для беларусаў натуральны спосаб існавання, які забяспечвае ім умовы для рэалізацыі ўласнай непаўторнасці. Заняпад нацыянальнай культуры непазбежна прыводзіць да фізічнага вынішчэння народа. Да з'яў беларускай нацыянальнай культуры адносіцца ўсё тое, што беларусы робяць свядома, менавіта як беларусы. Таму наяўнасць нацыянальна свядомага беларускага насельніцтва надзвычай важная.

Сучасны стан беларускай культуры не з'яўляецца натуральным. Гэта — вынік двухсотгадовай акупацыі беларускіх земляў Расійскай імперыяй. Палітыка, якая ажыццяўлялася падчас акупацыі, мела на мэце поўную і канчатковую асіміляцыю беларусаў. Дзеля гэтага нам гвалтоўна навязвалася руская нацыянальная свядомасць (найперш праз укараненне мовы «старэйшага брата» і яго погляду на гісторыю).

Сёння можна падвесці некаторыя вынікі гэтага жудаснага двухсотгадовага эксперымента. У выніку працяглай і мэтанакіраванай асіміляцыйнай палітыкі пераважная колькасць беларусаў пазбавілася нацыянальнай свядомасці, пачала лічыць сябе «рускімі». Больш таго, узнік і шырока распаўсюдзіўся нацыянальны нігілізм — варожае, грэблівае стаўленне да беларускай культуры. Усё гэта паставіла пад пагрозу само існаванне беларускага народа, бо, страціўшы нацыянальную свядомасць, ён, натуральна, згубіў і магчымасць бачыць і ўсведамляць свае нацыянальныя інтарэсы, быў вымушаны коштам жыцця мільёнаў і мільёнаў беларусаў аплочваць экспансіяніцкія памкненні чужынцаў. Так, напрыклад, было падчас вайны 1812 года, так было ў перыяд Першай сусветнай вайны, рэвалюцыі, грамадзянскай вайны ў Расіі, у часы Другой сусветнай вайны і афганскай авантуры. Так можа працягвацца і заўтра, калі незалежная беларуская дзяржава не здолее стварыць спрыяльныя ўмовы для абуджэння нацыянальнай свядомасці свайго народа.

Пры адсутнасці нацыянальнай свядомасці развіццё культуры немагчыма. Магчыма толькі імітацыя знешніх форм расійшчыны, толькі правінцыйнае (у горшым сэнсе) кампіляванне, якое ў культурна-гістарычным сэнсе не мае ніякай самастойнай каштоўнасці, акрамя адмоўнага прыкладу для іншых. У гэтым можа пераканацца кожны, хто паглядзіць праграму «Крок» (сапсаваны «Взгляд»), праграму «Навіны» (сапсаваная праграма «Время»), праграму НІКа (сапсаваныя «Вести»)...

Аналізуючы сучасны стан беларускай культуры, нельга не заўважыць, што найбольшага поспеху акупанты нашай Бацькаўшчыны дасягнулі ў справе пазбаўлення беларусаў гістарычнай памяці і замене яе на гістарычную памяць расійскага народа. У гэтым накірунку — і раней і цяпер — працуюць сістэма адукацыі, сродкі масавай інфармацыі і сфальсіфікаваная гістарычная навука. Гэта становішча будзе захоўвацца да таго часу, пакуль у рэспубліцы не запануе беларускі погляд на ўласную гісторыю.

З усяго можна канстатаваць, што становішча беларускай культуры, беларускага народа на сваёй этнічнай зямлі зараз з'яўляецца ненатуральным і небяспечным, але не безнадзейным. Галоўная падстава для аптымізму — абвяшчэнне незалежнасці і паступовае напаўненне яе рэальным зместам.

## Аб развіцці беларускай культуры

Беларуская нацыянальная культура павінна запанаваць на этнічна беларускіх землях. Расійская і іншыя нацыянальныя культуры павінны панаваць на этнічных землях сваіх народаў. На беларускай зямлі яны панаваць не могуць. У канкрэтных варунках, якія склаліся на Беларусі, пашырэнне і развіццё беларускай культуры будзе непазбежна ажыццяўляцца за кошт згортвання ўплыву і нават выціскання расійскай культуры. Ставіцца да гэтага трэба з паразуменнем, як да аднаўлення гістарычнай справядлівасці, як да простага ажыццяўлення беларускай культурай свайго натуральнага права.

З пункту гледжання развіцця беларускай культуры галоўная задача сёння — стварэнне ўмоў для адраджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Дзеля гэтага неабходна зрабіць захады для вяртання найперш гістарычнай памяці народа, беларускай мовы, традыцый і звычаяў, у якіх знайшлі адлюстраванне галоўныя рысы беларускага нацыянальнага характару.

Для ўсталявання добрага супольнага жыцця на Беларусі для людзей розных нацыянальнасцей патрэбна іх добразычлівае супрацоўніцтва ў справе беларускага нацыянальнага адраджэння, у справе стварэння ўмоў для натуральнага суіснавання розных культур.

Беларуская дзяржава (усе яе структуры), выконваючы свае прамыя прызначэнне і абавязак, павінна забяспечыць прыярытэтнае развіццё беларускай культуры. Палітыка Адраджэння павінна ажыццяўляцца дзяржаўнымі ўстановамі і за дзяржаўны кошт.

Паколькі беларуская дзяржава сёння не можа і не хоча займацца сапраўдным адраджэннем нацыянальнай беларускай культуры, то спадзявацца на выкананне ёю сваіх прамых функцый у поўнай меры няма падстаў. Гэта накладвае на ўсе палітычныя партыі, рухі, аб'яднанні, якія знаходзяцца ў межах палітычнага спектру рэспублікі, а таксама на ўсіх нацыянальна-свядомых грамадзян абавязак узяць на сябе клопат культурнага адраджэння. Цяпер мы павінны ўсе разам парупіцца пра культурнае адраджэнне беларусаў, каб выжыць і развівацца.

Згадкі

# Вацлаў Іваноўскі: шлях да смерці

Вацлаў Іваноўскі... На працягу дзесяцігоддзяў рэдкія згадкі аб ім у афіцыйным друку спалучаліся толькі са словамі «здраднік» і «калабарант». Але сёння, калі кожны самастойна, без уціску органаў ідэалагічнага кантролю, вызначае сваё стаўленне да гістарычных падзей, ёсць магчымасць даведацца больш грунтоўна пра дзейнасць гэтай неадназначнай асобы.

У мінулым годзе інстытут гісторыі Польскай акадэміі навук сумесна з выдавецтвам «Грыф» і фондам Сцяпана Батуры выдалі ў Варшаве новую кнігу вядомага даследчыка гісторыі Беларусі доктара Юрыя Туронка «Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі». Даследаванне падае вобраз Іваноўскага істотна адметным ад таго, што быў створаны афіцыйнай савецкай гістарыяграфіяй.

Ён нарадзіўся 25 мая 1880 года ў фальварку Лябёдка гміны Старыя Васілішкі Лідскага павета Віленскай губерні. Бацька Вацлава — Леанард — паходзіў са старой шляхты (маёнтак атрыманы яшчэ ў 1510 годзе), але, хаця і карыстаўся ў штодзённым ужытку польскай мовай, лічыў сябе і свой род нашчадкамі шляхты старой Літвы. Сямейнае выхаванне ў падобным духу дало свой плён: ягоны сын Вацлаў вызначыў сябе як беларуса і гаварыў на мове свайго народа. Браты Вацлава Тадэвуш і Юры (Ежы) з узростам далучыліся да палітычнага і нацыянальнага руху: адзін — Літвы, другі — Польшчы.

Адукацыю будучы прафесар атрымаў на хімічным факультэце Пецярбурскага тэхналагічнага інстытута. Падчас вучобы ён здолеў згуртаваць вакол сябе студэнтаў-беларусаў, якія ўзімку 1901—1902 гадоў утварылі нелегальную Беларускую рэвалюцыйную партыю. З 1902 года БРП пачала займацца выдавецкай дзейнасцю, надрукаваўшы зварот «Да інтэлігенцыі», адрасаваны адукаваным беларусам. Першы пункт праграмы дзейнасці нацыянальнай інтэлігенцыі быў сфармуляваны так: «Ствараць гурткі з мэтай працы над роднай мовай (граматыка!), краязнаўствам, гісторыяй, літаратурай. Звярнуцца да спецыялістаў з просьбай аб выкладанні і напісанні адпаведных прац. Палегчыць іхнюю працу матэрыяльнай дапамогай».

Jerzy Turonek

Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi




Warszawa 1992


Warszawska Oficyna Wydawnicza „Gryf" Instytut Historii Polskiej Akademii Nauk

1903 год. Іваноўскі разам з А. Пашкевіч і братамі Луцкевічамі выдае нумар нелегальнага часопіса «Свабода». (Увесь наклад, каб пазбегнуць арышту, вымушаны былі знішчыць самі выдаўцы). Да 1904 года намаганнямі Іваноўскага ў Пецярбургу і Кракаве выйшлі 8 друкаваных выданняў. Менавіта ён быў адным з арганізатараў створанай у 1906 годзе ў Пецярбургу выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», а таксама ўкладальнікам першага беларускага лемантара, выдадзенага лацінкай і кірыліцай. У канцы 1909 года па запрашэнні Іваноўскага у Пецярбург прыехаў Купала, які актыўна ўключыўся ў выдавецкую дзейнасць. Кіраваная Іваноўскім суполка стала прыбытковым камерцыйным прадпрыемствам, якое выдавала творы Купалы, Коласа, Цёткі, Бядулі, Гартнага, Буйлы, Журбы ды шмат іншых. У 1913 годзе Іваноўскі пераязджае з Пецярбурга ў Вільню, дзе заснoўвае Беларускае выдавецкае таварыства. З 1906 па 1915 год створаныя ім выдавецтвы надрукавалі кірыліцай і лацінкай каля 80 выданняў агульным накладам 220 000 асобнікаў. Асветніцкую дзейнасць перапыніла Першая сусветная вайна.

«З Расіяй ці з Польшчай?» — так называецца раздзел кнігі Ю. Туронка, прысвечаны падзеям ваеннага і паваеннага часу. Назва слушная, бо паміж 1915 і 1920 гадамі, у час распаду Расійскай імперыі і спробы стварэння незалежнай беларускай дзяржавы кожны з дзеячаў нацыянальнага руху мусіў зрабіць выбар — на чыю падтрымку абаперціся ў справе пабудовы маладой дзяржавы? Польшча і Расія, войскі і ўрады якіх былі адзінымі рэальнымі сіламі на нашай зямлі, прапанавалі беларусам дзве канцэпцыі: федэрацыю з Польшчай пры ўмове поўнай культурнай і нацыянальнай аўтаноміі ці існаванне ў саюзе з Расіяй у выглядзе фікцыйных БССР ці ЛітБел. Вартасць савецкай прапаганды Іваноўскі зразумеў, апынуўшыся ў 1919 годзе ў лагеры пад Смаленскам, куды ён трапіў за сувязь з Жылуновічам і ягонымі паплечнікамі, арыштаванымі яшчэ раней за ўяўную дзейнасць на карысць Польшчы. У адрозненне ад бальшавікоў Пілсудскі дзейнічаў больш тонка, выдаўшы зварот «Да люду былога Вялікага княства Літоўскага» з абяцаннямі вырашэння нацыянальных і рэлігійных пытанняў. У той час як Беларуская Рада Віленшчыны і Гарадзеншчыны спрабавала стварыць з польскай падтрымкай беларускае войска, па загаду Сталіна ЦК Камуністычнай партыі Літвы і Беларусі зліквідаваў урад ЛітБел. Іваноўскі зрабіў свой выбар, паставіўшы на ўрад Пілсудскага, але гэта была гульня без шанцу на выйгрыш: падпісаны Расіяй і Польшчай Рыжскі мірны трактат зрабіў дарэмнымі спадзяванні беларусаў на адбудову сваёй дзяржавы.

Да верасня 1939 года Іваноўскі жыў і працаваў у Польшчы, адышоўшы ад палітычных спраў. Але палітыка польскага ўрада ў дачыненні да беларускай меншасці, а таксама існаванне БССР з яе палітыкай беларусізацыі зрабілі сваю справу: як і значная частка беларускіх дзеячаў, Іваноўскі быў гатовы прыняць саюз з Расіяй. Калі 1 верасня 1939 года былы студэнт Іваноўскага, сустрэўшы прафесара ў Вільні, спытаў, чаму ён не ўцякае на Захад, той адказаў: «Чакаю ад'езду ў Мінск, каб будаваць Беларусь: вы ж ведаеце, я — беларус. Я хачу быць у цэнтры падзей». Усё ж Іваноўскі застаўся ў Вільні, дзе ўжо ў кастрычніку 1939 года НКУС арыштаваў Антона Луцкевіча, Аляксандра Уласава, Яна Пазьняка ды іншых лідэраў беларускай інтэлігенцыі. У далучанай да СССР Заходняй Беларусі рэпрэсіраваліся беларускія палітычныя лідэры, была скасавана і без таго непаслядоўная палітыка беларусізацыі. Так савецкі рэжым выказваў сваё стаўленне да беларускай дзяржаўнасці.

Трагедыя Іваноўскага працягвалася. Не знайшоўшы падтрымкі беларускай справе ва ўрадаў Польшчы ці СССР, з пачаткам германа-савецкай вайны ён спрабуе наладзіць кантакты з акупацыйнымі ўладамі. На той час адзінай мэтай Іваноўскага і ягоных аднадумцаў было захаванне народа, яго асвета і пашырэнне нацыянальнай свядомасці да часу, пакуль, згодна з іхнімі спадзяваннямі, Германія і СССР не знясіляць сябе ў вайне і адбудзецца перадзел Еўропы заходнімі хаўруснікамі. А пакуль Іваноўскі ўдзельнічае ў стварэнні нелегальнай ва ўмовах акупацыі антыфашысцкай Партыі беларускіх нацыяналістаў, якая магла б даць пачатак ураду незалежнай Беларусі ў паваеннай Еўропе. Адначасова прафесар легальна супрацоўнічае з германскімі акупацыйнымі ўладамі, займаючы высокія пасады ў гарадской управе Менска. Увосень 1941 года прадстаўнік польскай Арміі Краёвай у Менску даносіў лонданскаму ўраду: «...беларусы змушаны манеўраваць так, каб ніякім чынам не звярнуць на сябе ўвагі немцаў, прынамсі, да часу стварэння беларускай арміі (яна мае налічваць 150 000 асобаў), бо сёння галоўнай іх працай ёсць працягванне сваіх людзей у аддзелы з тым, каб стварыць суполкі партыі аж да поўнага апанавання войска і паліцыі... Беларусы імкнуцца да таго, каб мірным шляхам атрымаць ад немцаў як найболей, а рэшту забраць па іхнім разгроме».

Асобнае месца ў даследаванні доктара Туронка займае апісанне адносін паміж Вацлавам Іваноўскім і Вільгельмам Кубэ. Тагачасны гаўляйтэр Беларусі, прадстаўлены савецкімі гісторыкамі крывавым катам, на самай справе, піша Ю. Туронак, ужо на пачатку сваёй дзейнасці ўступіў у канфлікт з кіраўніцтвам Вермахта і СС, актыўна выступаючы супраць карных акцый на падуладных яму тэрыторыях і беззаконняў вайсковай адміністрацыі. У адрозненне ад гаўляйтэра Украіны Коха, які, паводле ягоных уласных слоў, збіраўся кіраваць «бізуном і гарэлкай», Кубэ зрабіў стаўку на цывільную мясцовую адміністрацыю. Карыстаючыся ягонай падтрымкай, у значнай ступені выкліканай уплывам Іваноўскага, ва ўмовах акупацыі беларускія дзеячы здолелі наладзіць сістэму самапомачы, нацыянальнага школьніцтва і нават стварыць Беларускую Цэнтральную Раду і Беларускую краёвую абарону — хай шмат у чым фікцыйны, але правобраз нацыянальных урада і арміі.

Спадзяванні Вацлава Іваноўскага ў чарговы раз аказаліся марнымі. У 1943 годзе савецкія войскі рушылі на захад, а перамога ў вайне СССР, роўна як і Германіі, азначала закрыццё пытання аб стварэнні беларусамі самастойнай дзяржавы. 6 снежня 1943 года Іваноўскі быў смяротна паранены стрэлам былога паліцая, які перабег да партызан. Хто аддаў яму гэты загад, засталося невядомым — Іваноўскага аднолькава не любілі як кіраўнікі СС, так і партызаны, а сам выканаўца праз нейкі час быў расстраляны...

«Яму снілася незалежная Беларусь,— піша доктар Туронак у прадмове да сваёй кнігі.— Толькі гэтая мэта надавала сэнс усім ягоным намаганням, скіраваным на абуджэнне і пашырэнне нацыянальнай свядомасці народа. Ужо маладым студэнтам ён зразумеў, што дасягненне гэтай мэты не будзе магчымым без рэальнай вонкавай падтрымкі. Таму ён супрацоўнічаў з Расіяй, Польшчай, Нямеччынай — усё залежала ад часу падзеяў ды ад здольнасці і зацікаўленасці магчымага хаўрусніка ў падтрымцы інтарэсаў Беларусі. Аднак жа толькі ёй адзінай ён прысягнуў на вечную вернасць, іншых жа ўспрымаў праз прызму інтарэсаў Беларусі і чакаў ад іх разумення і падтрымкі».

Гэта быў шлях да смерці— не толькі фізічнай, але і маральнай. Тыя, хто бараніў сябе, а не свае перакананні, на дзесяцігоддзі ўвогуле выкраслілі ягонае імя з гісторыі Беларусі.

У. ПАНАДА.

# БЕЛАРУСЬ у люстэрку славянафілаў

*Заканчэнне*

*Пачатак у № 38.*

Сваякі палкаводца каля 30 гадоў валодалі маёнткам, падкрэслівалася, што светлая памяць пра Суворава дагэтуль жыве сярод тутэйшага простага люду. Рэдакцыя знарок замоўчвала наступны шырокавядомы факт. У кобрынскіх уладаннях А. Суворава (каля 14 тыс. «душ», атрыманых за задушэнне вызваленчага паўстання Тадэвуша Касцюшкі і за кіраўніцтва аперацыямі ў гвалтоўных падзелах Рэчы Паспалітай) чынш — колішняя асноўная павіннасць тутэйшага сельскага насельніцтва — было прымусова заменена паншчынай. Увогуле, ушанаванне на Беларусі памяці гэтага вернага царскага паслугача, які ўдзельнічаў у шматлікіх заваёўніцкіх войнах і, у прыватнасці, з'явіўся тут з мячом у ролі карніка, даўно нонсэнс. Але, тым не менш, музей Суворава ў Кобрыне існуе па сённяшні дзень...

У адным з майскіх нумароў «Дня» за 1864 год мы знайшлі цікавае апісанне менскай Петрапаўлаўскай царквы — адрэстаўраванага ў нашы дні помніка архітэктуры пачатку XVII стагоддзя, самай старой з тых нешматлікіх пабудоў, якія засталіся нам ад сярэднявяковага Менска. «Царква стаіць,— чытаем у газеце, — пры ручаі Нямізе, што вясною, а таксама летам і восенню ў перыяд дажджоў і ўзімку адлігаю залівае цэлую вуліцу, царкоўны пляц, царкоўны двор... пры такіх умовах царква амаль адмяжоўваецца ад горада і прыхаджан, апошнія з цяжкасцю могуць яе наведваць...

Прыхаджане — мяшчане і сяляне навакольных вёсак. З іх мяшчане ў большасці — бяздомныя, самотныя, што запісаліся ў мяшчане з іншых саслоўяў... Царква ў самым неахайным стане і патрабуе аднаўлення, асабліва — новага даху, вокнаў, падлогі, будаўніцтва агароджы».

У канцы 1864 года невядомы беларускі карэспандэнт змясціў у газеце («День», № 40) вялікі артыкул «Голас з Белавежскай пушчы». Ён з душэўным болем паведаміў аб драпежніцкім вынішчэнні лясных прыродных багаццяў свайго краю, пра цёмныя, злачынныя справы купцоў і царскіх чыноўнікаў, што нажываюць вялізныя капіталы на сваіх «аперацыях». Мясцовыя ўлады, даведваемся з дописа, загадалі высекчы ў пушчы ўсе бортныя дрэвы, а сяляне-бортнікі, якія спрадвеку збіралі тут мёд дзікіх пчол, засталіся без кавалка хлеба. Мала таго, многія лесапрамыслоўцы, падкупіўшы лясную варту і чыноўнікаў, загадалі валіць цэлыя дзялянкі карабельных соснаў, прымлівалі за іх на замежных верфях па «100 рублёў на адзін выдаткаваны рубель». Пасля, каб схаваць канцы ў ваду, яны падпальвалі лес, а ў пажарах абвінавацілі навакольных беларускіх пчаляроў. «Абурэнне ахоплівае душу, калі едзеш праз выгарэлыя прасторы».

За подпісам «К» на старонках «Дня» (1864, № 44) убачыў свет яшчэ адзін матэрыял пра Белавежскую пушчу. Аўтар, спасылаўшыся на працы вядомага краязнаўцы і гісторыка Міхала Балінскага, якому належаў маёнтак Яшуні на Віленшчыне, паведаміў, што прыкладна каля 1770 года Жан Жак Русо склаў праект дзяржаўнага ўпарадкавання для Рэчы Паспалітай. Праз нейкі час Літоўскі падскарбі (міністр фінансаў Вялікага княства Літоўскага.— М. В.) Антоні Тызенгаўз абмяркоўваў праект з філосафам у Парыжы. Ён прапанаваў знакамітаму субяседніку пераехаць на сталае жыхарства ў Белавежскія лясы, бо «гэта самае зацішнае месца ва ўсёй Еўропе», і толькі выпадковасць перашкодзіла прапанове ажыццявіцца.

Як бачым, нават кароткі агляд асноўных беларускіх матэрыялаў «Дня» дае падставы сцвярджаць, што хоць у люстэрку славянафілаў тагачасныя беларускія рэаліі часам ацэньваліся і падаваліся не заўжды аб'ектыўна, але, тым не менш, публіцыстыка славянафілаў з'яўляецца важкай і найцікавейшай крыніцай для вывучэння не надта далёкай беларускай мінуўшчыны.

Мар'ян ВІЖ.

## Вучымся!

*Культура мовы*

*Павел СЦЯЦКО, доктар філалагічных навук*

# Дакуль будзем пагарджаць сваімі словамі

Некаторыя нашы газеты, змяшчаючы матэрыялы, дасланыя не на роднай мове, робяць такі недасканалы пераклад іх, што беларускаму чытачу цяжка зразумець іх сэнс. Напрыклад, у беларускай газеце чытаем: «Трэба прадаставіць прыроду самой сабе і назіраць вынікі». Або: «Сусветны банк прадаставіць свой крэдыт на 15 гадоў з адтэрміноўкай плацяжу на першыя пяць гадоў...» У гэтых тэкстах пакінута неперакладзеным слова «прадаставіць». Яго не ведае беларуская мова, не фіксуе ніводны самы новы беларускі слоўнік. Расійскім «предоставить», як сведчаць расійска-беларускія слоўнікі, адпавядаюць у беларускай мове свае натуральныя словы. Так, «Русско-белорусский словарь» пад рэдакцыяй акадэміка К. Крапівы (Мн., 1982, т. II, с. 175) падае: ПРЕДОСТАВЛЯТЬ: 1. (давать в пользование что-либо, давать возможность обладания) *даваць; аддаваць; уступаць;* предоставлять возможность — *даваць магчымасць;* предоставлять свою квартиру в чьё-либо распоряжение — *аддаваць (уступаць) сваю кватэру ў чыё-небудзь распараджэнне;* 2. (давать возможность делать что-либо, распоряжаться чем-либо) *даваць* (магчымасць, права, дазвол і г. д.), *пакідаць, дазваляць;* предоставлять все удобства — *даваць усе выгоды;* предоставлять выбор — *даць магчымасць (права) выбіраць (выбраць);* предоставлять решение вопроса кому-либо — *пакідаць вырашэнне пытання на каго-небудзь, даваць магчымасць (права) вырашыць пытанне каму-небудзь;* предоставлять чьему-либо усмотрению — *пакідаць на чыё-небудзь меркаванне;* предоставлять доброй воле — *пакідаць на добрую волю.*

І зваротная форма *прадастаўляцца* не бытуе ў беларускай мове. У згаданым слоўніку бачым: слово предоставляется такому-то — *слова даецца* такому і такому, слова *мае* такі і такі (тамсама). Форма закончанага трывання «предоставить» перекладаецца тымі ж аднакаранёвымі словамі *даць, аддаць, уступіць, пакінуць, дазволіць;* предоставить самому себе — *дазволіць (даць магчымасць) дзейнічаць самастойна;* предоставить на произвол судьбы — *пакінуць на самога сябе, пакінуць на волю лёсу.*

Маюць свае дакладныя беларускія адпаведнікі і вытворныя ад іх словы *предоставленный, предоставление.* Першае з іх перакладаецца лексемамі *дадзены, аддадзены, пакінуты, дазволены,* а другое — *даванне, аддача, аддаванне, уступка, пакіданне, дазвол.*

Варта зазначыць, што слова *прадаставіць* нярэдка зблытваецца з *прадставіць.* Вось некаторыя прыклады: «У кангрэс ЗША паступіў законапраект, які прадугледжвае *прадставіць* Босніі і Герцагавіне ваенную дапамогу на суму да 200 мільёнаў долараў». Або вось такі тэкст: «Наступнае слова *прадстаўляецца* дэпутату...»; «Прашу *прадставіць* дакументы не пазней 5 мая 1993 г.». І гэтакая блытаніна невыпадковая: абодва словы — штучныя для беларускай мовы. Яны маюць неўласцівую беларускай мове прыстаўку *прад-* (з пред- ), якая выступае са значэннем «перад», г. зн., *прадставіць* — «перадставіць» («перадам ставіць»).

Ці такое неабходнае беларускай мове *прадставіць?* Яно безаблічнае ў нашай мове, неканкрэтнае, расплывістае семантыкай, штучнае, ненатуральнае для лексічнай сістэмы беларускай мовы. У беларускай мове слову расійскай мовы *представить (представлять)* адпавядае цэлы шэраг сваіх словаў з адметным у кожным выпадку значэннем.

Перш чым разгледзець гэтыя беларускія адпаведнікі, нагадаем некаторыя тэксты з перыядычных выданняў: *«Прадстаўляючы* сваю праграму, Лазарайціс падкрэсліў, што ён незалежны кандыдат і будзе імкнуцца пераадолець проціборства, што раздзірае грамадства...» Або: «З нашчадкаў яго (Гедыміна) найбольшую цікавасць *прадстаўляе* Альгерд, які па бацькоўскім завяшчанні атрымаў у валоданне замак Крэва з ваколіцамі...» Беларус натуральна тут скажа (напіша): *«Выкладаючы сваю праграму...»,* (а не *прадстаўляючы), «З нашчадкаў найбольшую цікавасць мае (уяўляе)* Альгерд...»

З аднаго выдавецтва нядаўна атрымаў просьбу даць свой водгук на працу, якая плануецца да выдання. У ёй чытаю: «Рэцэнзію просім *прадставіць* у трох экземплярах не пазней 20 студзеня». А чаму не напісаць, як кажуць беларусы: «Просім даслаць да 20 студзеня тры экземпляры рэцэнзіі (водгуку)».

А цяпер звернемся да даведнікаў, якія вызначаюць лексічную норму выкарыстання слоў. «Русско-белорусский словарь» пад рэдакцыяй вядомых беларускіх пісьменнікаў, акадэмікаў Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і члена-карэспандэнта Пятра Глебкі (М., 1953, с. 497–498) падае: ПРЕДСТАВЛЯТЬ несов. 1. (подавать; приводить доказательства, справки и т. п.) *падаваць, прыводзіць; представлять* списки — *падаваць спісы;* представлять на рассмотрение, утверждение — *падаваць на разгляд, зацверджанне;* представлять соображения — *прыводзіць (падаваць) меркаванні;* 2. (доставлять в какое-либо место) *прыстаўляць, ставіць;* представлять свидетелей к допросу — *прыстаўляць (ставіць) сведак на допыт;* 3. (знакомить, рекомендовать) *знаёміць* (каго з кім), *рэкамендаваць;* представлять педагогическому совету нового преподавателя — *рэкамендаваць педагагічнаму савету новага выкладчыка;* представить товарища отцу — *знаёміць таварыша з бацькам;* 4. (к ордену, награде и т. п.) *прадстаўляць;* 5. (изображать) *маляваць, паказваць, выводзіць;* представлять кого-либо в смешном виде — *маляваць (паказваць) каго-небудзь у смешным выглядзе;* автор представляет своих героев... — *аўтар малюе (паказвае, выводзіць) сваіх герояў...;* 6. (вызывать что-либо, причинять) *выклікаць, прычыняць;* (составлять) *складаць;* эта работа не представляет больших затруднений — *гэта работа не выклікае (не складае) вялікіх цяжкасцей;* 7. (принимать на себя образ кого-чего-либо) *прыкідвацца* (кім-чым), *строіць з сябе;* представлять сумасшедшего — *прыкідвацца вар'ятам, строіць з сябе вар'ята;* 8. (воображать) *уяўляць;* вы представляете себе такую картину? — *вы ўяўляеце сабе такі малюнак?* 9. (давать представление) театр. *паказваць;* представлять сцену из новой пьесы — *паказваць сцэну з новай п'есы;* 10. (являться) *з'яўляцца;* (быть) *быць;* (представлять собой) *уяўляць;* (составлять) *складаць, станавіцца;* служба в ...армии представляет почётную обязанность — *служба ў ...арміі з'яўляецца пачэсным абавязкам;* он представляет собой воплощение честности — *ён уяўляе сабой увасабленне сумленнасці, ён з'яўляецца ўвасабленнем сумленнасці;* это представляет большую ценность — *гэта ўяўляе (складае, становіць) вялікую каштоўнасць;* 11. (быть представителем) *прадстаўляць;* представлять интересы масс — *прадстаўляць інтарэсы мас.*

Як бачым, з адзінаццаці значэнняў слова «представлять» толькі два передаюцца пазычаным словам *прадстаўляць.* Але і тут на месцы *прадстаўляць* у беларускай мове ёсць свае адпаведнікі: замест «прадстаўляць да ўзнагароды» — «хадайнічаць аб узнагароджанні» ці «падаваць дакументы на ўзнагароджанне». Замест «прадстаўляць інтарэсы мас» — «выяўляць (ажыццяўляць) інтарэсы (ці паўнамоцтвы) шырокіх колаў».

«Русско-белорусский словарь» 1982 года і яго наступнае выданне (1991) паўтараюць тое, што засведчыў ранейшы слоўнік 1953 года. Праўда, дзеля ідэі хутчэйшага набліжэння моў яны ўжо ў двух выпадках, акрамя беларускіх слоў, падалі і пазычанне з расійскай мовы *прадстаўляць,* даўшы яго пасля трох сваіх эквівалентаў, але ў ілюстрацыях бачым свае словы (а не гэтае «прадстаўляць»: представлять списки — *падаваць спісы, падаваць на разгляд, зацверджанне; прыводзіць меркаванні* і г. д.

Пра неўласцівасць беларускай мове дзеяслова «прадстаўляць» сведчаць беларускія пераклады іншых расійскіх слоў з прэфіксам *пред-*. Напрыклад, ПРЕДСТОЯТЬ: предстоят выборы — *маюць адбыцца выбары;* вам предстоит интересная поездка — *вас чакае цікавая паездка;* предстоит лететь на самолёте — *давядзецца ляцець на самалёце;* предумышленно — *наўмысна, наўмысля;* предшественник — *папярэднік;* предупредить — *папярэдзіць, паведаміць* (зараней); предстать — *з'явіцца, паявіцца;* предпочесть — *аддаць перавагу;* предпосылка — *перадумова;* предпринимать — *пачынаць, распачынаць, рабіць;* предпринимать издание журнала — *пачынаць (распачынаць) выданне часопіса, брацца за выданне часопіса;* предпринимать шаги — *рабіць захады* і г. д.

Такім чынам, беларуская мова мае свае вельмі дакладныя адпаведнікі расійскіх словаў *предоставлять, предоставить* і *представить, представлять.* Трэба толькі не пагарджаць імі, бяздумна пазычаючы, штучна калькуючы чужыя звароты мовы.

# ПЛАН

## навучальных тэлеперадач на 1993 / 94 навучальны год

| № п/п | Дата | Клас | Прадмет | Тэма |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | | **КАСТРЫЧНІК** | |
| 13. | 30.09, 01.10 | 7 | беларуская літаратура | „Дрэмле памятка дзён /паэма Янкі Купалы „Курган"/ |
| 14. | 4,5 | 3 | прыродазнаўства | Па старонках Чырвонай кнігі Беларусі |
| 15. | 5,6 | 4 | выяўленчае мастацтва | Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва |
| 16. | 7,8 | 11 | беларуская літаратура | Песня, напісаная жыццём / Максім Танк і яго паэзія/ |
| 17. | 11,12 | 6 | гісторыя Беларусі | Усходнія славяне на Беларусі ў IX–XIII ст ст. |
| 18. | 12,13 | 8 | беларуская літаратура | Дзед Талаш і Прыпяць /паводле аповесці Якуба Коласа „Дрыгва"/ |
| 19. | 14,15 | 4 | музыка | У кожнага свой голас /беларускія музычныя інструменты/ |
| 20. | 18,19 | 4 | пазакласнае чытанне | Анатоль Клышка. „Францыск Скарына" |
| 21. | 19,20 | 5 | выяўленчае мастацтва | Пейзаж у творах беларускіх мастакоў |
| 22. | 21,22 | 10 | гісторыя Беларусі | Культура Беларусі на пачатку XX ст. |
| 23. | 25,26 | 3 | прыродазнаўства | Расліны і жывёлы вадаёмаў |
| 24. | 26,27 | 2 | музыка | Аб чым гаворыць музыка |
| 25. | 28,29 | 9 | гісторыя Беларусі | Палітыка беларусізацыі ў 20-я гады XX ст. |

*З. Ю. КАПЫСКІ, П. А. ЛОЙКА, В. І. МЯЛЕШКА*

# БЕЛАРУСЫ: ВЁСКА І ГОРАД У ЧАСЫ ВАЕННАГА ЛІХАЛЕЦЦЯ І АНАРХІІ Ў ДЗЯРЖАВЕ

## (другая палавіна XVII—XVIII стст.)

*Працягваем друкаваць раздзелы з вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі».*

Для сялянства XVII—XVIII стст. былі нялёгкімі, бо тады па беларускай зямлі часта ішлі спусташальныя войны. Да таго ж пануючы клас ужо заканадаўча аформіў манапольнае права валодання зямлёй. 26 артыкул раздзела Статута ВКЛ 1588 г. поўнасцю адлучаў земляроба ад зямлі.

Але, нягледзячы на заканадаўчую забарону, сяляне, абапіраючыся на звычаёвае права, яшчэ ў першай палове XVIII ст. часам праводзілі гандлёвыя аперацыі з зямлёй. Феадальная адміністрацыя рэзка выступіла супраць падобнай практыкі.

Каб пракарміць сям'ю і даваць прыбытак свайму гаспадару, сялянскі надзел (паводле падлікаў тагачасных эканамістаў) павінен быў быць не меншым за палавіну валокі зямлі (прыкладна 10 гектараў). Феадалы-землеўладальнікі стараліся падтрымліваць жыццядзейнасць гаспадарак сваіх прыгонных, бо ад гэтага залежаў іх уласны дабрабыт.

У час ваеннага ліхалецця, калі многія палеткі ляжалі ў запусценні, прыгонныя часта наўмысна скарачалі памеры сваёй надзельнай зямлі і распрацоўвалі пусткі. Здараліся таксама выпадкі ўтойвання сялянамі ворных пазанадзельных земель, каб наогул не адбываць ніякіх павіннасцей.

За сялянскі кошт жылі і карміліся дзяржава, шляхта, войска, царква. На іх карысць прыгонныя адпрацоўвалі шматлікія павіннасці. Галоўная з іх — *паншчына* — адработкі, *дзякла* — натуральная рэнта і **чынш** — грашовы аброк. Першая была асноўнай для сялян цяглых, апошняя — для чыншавых. Дзякла ж, часцей за ўсё, дапаўняла гэтыя найважнейшыя павіннасці.

*Паншчыну* адбывалі зімой і летам, мужчыны і жанчыны. На працу сяляне павінны былі выходзіць ці з рабочай жывёлай, ці без яе. Пачынаўся паншчынны дзень з узыходам сонца, заканчваўся пры вечаровым змроку. Феадалы жорстка каралі сваіх падданых, калі тыя спазняліся ці не выходзілі на працу ў вызначаныя дні.

На працягу XVII—XVIII стст. норма дармовай прымусовай працы ў гаспадарцы феадала павялічылася. Але трэба адзначыць, што ў цяжкія ваенныя часіны і ў пасляваеннае аднаўленне феадалы, каб прыцягнуць ці ўтрымаць у сваіх маёнтках сялян, ішлі на пэўныя палёгкі. Так, землеўласнікі здавалі сваім падданым за долю ўраджаю (трэці ці чацвёрты сноп) валокі, якія не засяваліся. Сялянам, што толькі займелі жыхарства ва ўладанні, дараваліся так званыя слабоды — гэта значыць, што іх павіннасці на некалькі гадоў памяншаліся ў параўнанні з тымі, што мелі старажылы.

У той жа час нельга лічыць землеўласнікаў нейкімі дабрачынцамі ці сялянскімі абаронцамі. Дбалі яны перш за ўсё аб павышэнні сваіх прыбыткаў, якія поўнасцю залежалі ад моцы і плацежаздольнасці сялянскай гаспадаркі. Адсюль і пачыналіся «клопаты» феадалаў пра абмежаванне сялянскіх пабораў і ўзмацненне сялянскай гаспадаркі. Як толькі землеўладальнікі адчувалі самую нязначную магчымасць для павелічэння паншчыны, чыншу ці натуральнага аброку, яны адразу падымалі гэтыя павіннасці для сваіх падданых.

Акрамя штотыднёвай паншчыны, ў XVII—XVIII стст. сяляне выконвалі такія павіннасці, як *гвалты, талокі, згоны*,— работы, што былі звязаны са жнівом, сенакосам, узворваннем зямлі феадала. Прычым на гэтыя работы выходзілі ўсёй сям'ёй, пакідаючы дома аднаго «малога ці старога, да работы няздатнага», каб пільнаваў хату ад пажару. Колькасць гвалтаў на сялянскую гаспадарку часцей за ўсё вызначалася лічбай 12 на год, на ўзворванне зямлі — 4, на траляванне дрэва для будаўніцтва — 2, у жніво — 4, да стагавання сена — 2.

Вельмі цяжкай для беларускага селяніна з'яўлялася *падводная павіннасць*. Каб яе выканаць, прыгонны павінен быў на асабістай рабочай жывёле дастаўляць панскія грузы ці да бліжэйшай прыстані, ці ў гандлёвыя цэнтры, хутчэй за ўсё, у Вільню, Рыгу, Кралявец (сённяшні Калінінград). Падводная павіннасць на доўгі час адрывала селяніна ад работы на сваёй зямлі. Але шмат гэтага часу займалі і іншыя адработачныя павіннасці. Па-першае, так званая *старажоўшчына*, ці старожа, на якую выходзілі па чарзе 2—4 чалавекі з вёскі, часцей за ўсё на тыдзень, каб выконваць розныя гаспадарчыя работы ў двары феадала. Па-другое, *начная варта*, калі сяляне таксама па чарзе ахоўвалі панскі двор.

Абавязковай павіннасцю для беларускіх сялян былі і *шарваркі*—рамонт і будаўніцтва дарог-гасцінцаў, мастоў, маёнткавых збудаванняў. Выконваліся яны па запатрабаванні панскага двара і не вызначаліся дакладнай колькасцю рабочых дзён.

Даволі значнае месца ў павіннасным абкладанні сялян на Беларусі ў XVIII ст. займалі грашовыя падаткі. Сярод іх на першым месцы стаяў *чынш*, які з'яўляўся галоўнай павіннасцю для чыншавых сялян. Несумненна, чыншавікі, што не былі прыкаваны да амаль штодзённай працы ў панскім двары, у параўнанні з паншчыннікамі мелі куды большую гаспадарчую самастойнасць. Але ж па цяжкасці выканання чынш быў зусім не лягчэйшым за паншчыну. Чыншавыя стаўкі былі неаднолькавымі ў розных уладаннях, але паўсюдна дастаткова высокімі.

Для беларускіх сялян рэнта не вычэрпвалася чыншам. Грашовыя ўклады сялян «сваім» панам павялічваліся ў XVII—XVIII стст. за кошт іншых разнастайных падаткаў. Напрыклад, таго ж *«запіснога»*, якое сплачвалі сяляне пры здачы чынша. Звычайна яно складала адзін грош з кожнага злотага, які ішоў на чынш. Адсюль другая назва гэтага ж падатку — *«грашовае»*. Згадаем тут і такую павіннасць, як *«жарнавое»*, што спаганялася панам са сваіх прыгонных за права мець свае жорны. За карыстанне ляснымі ўгоддзямі зямельных уласнікаў сяляне плацілі такія падаткі грашыма, як *«угайнае»*, *«ялавічнае»*, *«вепраўшчызну»*. Але ж, нягледзячы на гэта, скарыстаць найвялікшыя багацці беларускіх лясоў просты люд не мог.

За дазвол на выраб алкагольных напіткаў феадал спаганяў з падуладных яму сялян так званае *«чапавое»*. Землеўласнікі забаранялі падданым таксама самавольна выходзіць замуж ва ўладанні да іншых феадалаў.

Акрамя названых грашовых падаткаў, сяляне розных маёнткаў выплачвалі сваім гаспадарам такія павіннасці, як *рагавое, акладное, быкавое рыбнае...* — усяго даследчыкі налічылі 56 найменняў толькі грашовых пабораў, што спаганяліся з сялян.

Мала таго, менавіта селянін быў галоўным падаткаплацельшчыкам у дзяржаўны скарб Вялікага княства Літоўскага. Штогод кожны сялянскі двор («дым») уносіў пэўную суму грошай — так званае *«падымнае»*. Але і гэта яшчэ не ўсё! Прыгонныя ўтрымлівалі і феадальнае войска. Для гэтага з дзяржаўных сялян спаганялася так званая *гіберна*. Прыватнаўласніцкія сяляне гэтай павіннасці не мелі. Але ў некаторых выпадках адсутнасць гіберны ў шляхецкіх маёнтках кампенсавалася іншым падаткам, які называўся *«рэйтаршчына»*. Ён ішоў на ўтрыманне прыватнага войска магнатаў. Рэйтаршчына ў прыватных маёнтках і гіберна ў дзяржаўных дапаўнялася *«стацыяй»* — натуральнай павіннасцю, што спаганялася з прыгонных камандаваннем вайсковых харугваў падчас кватаравання ў той ці іншай мясцовасці.

Стабільным прадуктовым аброкам, які дапаўняў паншчыну і чынш, з'яўлялася *дзякла*. Аснову яго складалі збожжавыя: жыта, ячмень, авёс, пшаніца. У дзякла ўваходзіла таксама абавязковае *«дарэнне»* (гусі, куры, яйкі, масла, хмель, канапля, грыбы, ягады і інш.).

Скрупулёзны падлік высветліў, што існавала недзе 120—140 сялянскіх павіннасцей. Канешне, не ўсе ў адным уладанні. Але калі нават дзесятая іх частка прыпадала на асобную сялянскую гаспадарку (а так хутчэй за ўсё і здаралася), то ўжо гэтага дастаткова, каб гаварыць аб высокім узроўні эксплуатацыі прыгонных на Беларусі.

Селянін быў поўнасцю залежны ад феадала — уласніка зямлі. У любы час той мог адабраць у свайго падданага зямельны надзел, перасяліць яго ў іншае месца, запрадаць з усёй маёмасцю, зямлёй іншаму феадалу, закласці пад пэўную грашовую суму, пры гэтым прадстаўляючы пакупніку ці крэдытору поўнае права распараджацца лёсам селяніна — судзіць і караць.

Уласнікі без ніякіх праблем маглі закласці на год, два, тры сваіх падданых пад некалькі соцень ці тысяч злотых. Аперацыя гэта была дасканала распрацавана. Здаеш прыгонных — атрымлівай грошы. Не пагасіў у час крэдыт — тэрмін арэнды сялян доўжыцца да канчатковага разліку.

Цяжкае эканамічнае становішча, прававая безабароннасць прымушалі сялян у крайніх выпадках хапацца за зброю і абараняць свой гонар і дабрабыт.

Буйнейшым сялянскім выступленнем на Беларусі ў феадальную эпоху было Крычаўскае паўстанне. На чале яго стаяў беларускі селянін Васіль Вашчыла. Нарадзіўся ён у 1690 г. у сялянскай сям'і ў невялічкай вёсачцы Лобжа, што на Крычаўшчыне. З цягам часу займеў жыхарства ў вёсцы Селішча Крычаўскага староства. Аднавяскоўцы выбралі Вашчылу войтам. Выбар селішчан быў невыпадковым, бо іх войт рашучы і смела выступаў супраць злоўжыванняў арандатараў і адміністрацыі Крычаўскага староства. Ён пісаў і дастаўляў сялянскія скаргі юрыдычным уладальнікам Крычаўшчыны — Радзівілам. А справа гэтая была небяспечная. Па гасцінцах снавалі прыслужнікі арандатараў, якія затрымлівалі тых, хто адважыўся несці скаргі князям. Скаржнікаў жорстка каралі: штрафавалі, катавалі, кідалі ў турмы. Так, у кастрычніку 1731 г., калі Вашчыла вяртаўся з Міра ад Радзівілаў, куды насіў чарговую скаргу, яго затрымалі слугі арандатара Крычаўскага староства Гдаля Іцкавіча, закавалі ў ланцугі, збілі і кінулі ў крычаўскую турму. Трохі раней Вашчыла, як сведчаць дакументы, атрымаў 150 удараў бізуном за тое, што асмеліўся хадзіць са скаргай ажно ў Варшаву. Пасля гэтага селіцкі войт доўга хварэў.

Жорсткі феадальны ўціск, вайсковыя пагромы, шляхецкія наезды прымусілі сялян і простых гараджан Крычаўшчыны ўзняцца на барацьбу супраць прыгнятальнікаў. У маі 1740 г. Васіль Вашчыла ўзначаліў першы ўзброены сялянскі атрад, які пачаў баявыя дзеянні **супраць арандатарскіх наймітаў і атрымаў першыя перамогі над шляхецкім войскам.**

Васіль Вашчыла быў не толькі вайсковым кіраўніком паўстання, але і кіраўніком ідэалагічным, палітычным. Паўстанцы выгналі са староства жорсткіх прыгнятальнікаў-арандатараў і ўзялі ўладу ў свае рукі. Многія пытанні кіравання Крычаўскім староствам Васіль Вашчыла вырашаў са сваімі паплечнікамі. Яны здавалі ў арэнду прамысловыя прадпрыемствы і корчмы. Новых арандатараў шукалі сярод гараджан, дробнамаянтковай шляхты, заможнага сялянства. Захавалася звыш 20 арэндных дагавораў, падпісаных Васілём Вашчылам і іншымі войтамі. Прычым кіраўнікі паўстання стараліся абмяжоўваць эксплуатацыю сялян арандатарамі. Шэраг дагавораў забараняў арандатарам пад пагрозай пакарання (канфіскацыя тавараў, штрафаў) займацца вымаганнем.

Былі прадугледжаны меры і супраць ліхвярства. Каб прыгонныя не трапілі ў поўную залежнасць ад арандатараў, сялянам забаранялася браць ў крэдыт вялікія сумы грошай і пазычаць многа збожжа. Пры малых крэдытах, якія таксама не заўсёды дазваляліся, былі **ўстаноўлены невялікі працэнт** за карыстанне імі, які пад пагрозай штрафу забаранялася перавышаць. Кіраўнікі сялянскага руху спрабавалі паслабіць феадальны прыгнёт. Іх дзейнасць была накіравана супраць злоўжыванняў арандатараў і адміністрацыі староства. Яны абмяжоўвалі ліхвярства, якое давяло да галечы не адну гаспадарку, вызвалялі прыгонных ад прымусовай працы на панскіх прамысловых прадпрыемствах.

Аднак гэта барацьба была накіравана не супраць сістэмы, што стварыла ўмовы эксплуатацыі, а супраць яе асобных носьбітаў. Радзівіл з часам адчуў, што страчвае кантроль над сітуацыяй і ўладу ў старостве. Каб задушыць паўстанне, князь Геранім Фларыян накіраваў на Крычаўшчыну войска са сваёй слуцкай рэзідэнцыі. 15 студзеня 1744 г. некалькі сотняў салдат з гарматамі і некалькі сотняў казацкай конніцы ўвайшлі ў Крычаў. Рада кіраўнікоў сялянскага руху вырашыла даць бой ворагу. Узброеныя сяляне на чале з Вашчылам рушылі да Крычава. Узброеныя сяляне на чале з Вашчылам рушылі да Крычава. 18 студзеня яны атакавалі горад. Княжацкія воіны-найміты, акрамя самай сучаснай агнястрэльнай зброі, мелі вопыт вядзення ваенных дзеянняў, дапамагалі ім і гарадскія ўмацаванні. Галоўная ж сялянская зброя — нянавісць да прыгнятальнікаў — была вельмі слаба падмацавана баявым узбраеннем. Таму не дзіўна, што радзівілаўскае войска без відавочных страт адбіла атаку паўстанцаў і адкінула іх ад Крычава за Сож.

Але прыгонныя не склалі зброю, не скарыліся. Яны атабарыліся ў вёсцы Царковішча, збіралі сілы і рыхтаваліся да новых бітваў.

*Працяг будзе.*

**(Матэрыял скарочаны; тэкст да друку падрыхтаваў М. Віж.)**



Менскі Палац дзяцей і моладзі. Ансамбль «Чабарок» выконвае харэаграфічную кампазіцыю «Куклляндыя».

**Фота Уладзіміра ШУБЫ, БЕЛІНФАРМ.**

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

Як вядома, назвы месяцаў года ў беларускім календары кожнаму зразумелыя, бо ўзяты з роднае мовы, паходзяць ад таго або іншага беларускага слова, за якім стаіць пэўны прадмет ці з'ява аб'ектыўнага свету. На першы погляд можа здацца, што па сваім значэнні слова, ад якога пайшла назва таго або іншага месяца, «не цягне» на сваю асноватворную ролю. Чым, напрыклад, заслужыла такі гонар слова «кастрыца», ад якога паходзіць назва сярэдняга месяца восені? Што стаіць за ім? А стаіць вельмі важнае паняцце—прa характар вытворчай дзейнасці нашых продкаў менавіта ў гэту пару года. Кастрычнік — сезон апрацоўкі льну, час, калі яго церлі і трапалі пад паветкамі ды на прыгуменнях спецыяльнымі прыладамі — абабівалі з валокнаў кастрыцу, а затым часалі на кудзелю. Кастрыца, такім чынам, дэталь часу, і ў такой якасці яна паслужыла для назвы месяца. Самае значнае свята ў кастрычніку — Пакровы.

Прыказкі, прымаўкі і прыкметы на кастрычнік: «Кастрычнік зямлю балоціць, а лес залоціць», «Кастрычнік ні каляса, ні палаза не любіць», «У кастрычніку на адной гадзіне і дождж і снег», «Не хваліся лён рвучы, а хваліся мнучы», «За то кума сябе трапала, што нядобра лён памяла», «У кастрычніку гром — зіма без снегу», «Позні асенні гром — позні снег», «Ліст на дрэвах жоўты, але добра трымаецца — да позніх маразоў, хуткі лістапад — да суровай зімы».

1 (пятніца). **Ун.** *Пакроў Найсвяцейшае Багародзіцы.*

2 (субота). **Кат.** *Дзень анёлаў-ахоўнікаў.* Паводле святога пісання, кожны чалавек мае свайго анёла, які яго аберагае і засцерагае.

**Пр.** *Засімаў дзень.* Дзень, у які звычайна хвалі пчаляры вуллі ў амшанік.

3 (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля 18-я пасля Сёмухі.*

**Пр.** *Астап.* Прыкметы на вецер: калі дзьме з поўначы — да халадоў, з поўдня — да цяпла, з захаду — да дажджоў, з усходу — на сухое цёплае надвор'е. Калі на Астапа стаіць добрае надвор'е і лётае павуцінне, то і наступныя дні будуць цёплымі, а снег выпадзе пазней, чым заўсёды.

4 (панядзелак). **Кат.** *Францішак (Пранцішак).* З поля звезены ўраджай, таму «На Пранцішка зярнят шукае ў полі мышка».

6 (серада). **Ун.** *Тамаш-апостал.*

7 (чацвер). **Кат.** *Дзень Найсвяцейшае панны Марыі Ружанцовай.*

8 (пятніца). **Пр.** *Сяргей.*

## «У кастрычніку і хата з дравамі і мужык з лапцямі»

Снег у гэты дзень абяцае хуткі надыход зімы.

9 (субота). **Пр.** *Дзень памяці Іаана Багаслова,* любімага вучня Хрыста *(Іван Шаптун, Іван Жураўнік, Іван Пакроўны, Іван Кураед, Багаслоў).* Паводле Евангелля, Іаан, як і Павел, займаў галоўнае месца сярод дванаццаці апосталаў. Яму прыпісваецца аўтарства «Евангелля ад Іаана» і «Апакаліпсіса». Яго выказванне пра зорку Палын, якая ўпадзе з неба і атруціць зямлю і ваду, часта цытуецца ў сувязі з чарнобыльскай катастрофай. У народзе на Багаслова адбываліся перамовы сватаў з жаніхамі («Іван Багуслаў дружкоў разаслаў, а аб Пакрове дзеўка гатова»). Народная прыкмета: калі ў гэты дзень пройдзе снег, то зіма ўсталюецца пасля 20 лістапада.

У некаторых мясцовасцях да свята высаджвалі курaнят, збіралі журавіны на лякарства.

**Ун.** Дзень Якуба Альфеевага, апостала.

10 (нядзеля). **Пр.** *Саўка (Сввасцей)* — прысвятак пчаляроў.

11 (панядзелак). **Пр.** *Пакроўны бацька* — прысвятак за тры дні перад Пакровамі. На Магілёўшчыне адзначаліся «Пакроўцы» — Дзяды перад Пакровамі.

14 (чацвер). **Пр.** *Пакроў Найсвяцейшае Багародзіцы (Пакровы, Трэцяя Прачыстая).* Народнае свята, на якое ў старажытнасці ўсходнія славяне адзначалі канец земляробчых работ у гадавым цыкле. За Пакровамі надыходзіла зіма, і людзі маглі перадыхнуць ад напружаннай — ад цямна да цямна — працы ў полі («Як прыйдзе Пакрова, то жывазадорова, як прыйшлі жніва, то ляжу нежыва»).

У гэты час ладзілі вяселлі. Дзяўчаты збіраліся на першыя попрадкі (вячоркі), варажылі на замужжа, спявалі адпаведныя часу песні. («Ападае лісточак на жоўты пясочак, дзевачцы на вяночак» і інш.).

Пакровы сталі рэлігійным святам з пашырэннем праваслаўя. Легенда гаворыць, што ў 910 годзе ў Канстанцінопалі святому Андрэю і яго вучню Эпіфану з'явілася Божая Маці. Яна трымала над вернікамі ў храме святое пакрывала і малілася аб выратаванні свету.

Прыказкі, прымаўкі, прыкметы: «Прыйшла Пакрова, пытае, ці ты да зімы гатова», «Прыйшла Пакрова — усохла дуброва», «Святыя Пакровы пакрываюць траву лістам, зямлю снегам, ваду лёдам, а дзяўчат шлюбным чэпцам», «Хто сее па Пакрове, не будзе мець чаго даць карове», «На Пакрову мароз —сей пад кустом авёс». Дождж на Пакровы — у наступным годзе будзе багата мёду; якое надвор'е на Пакровы — такая будзе і зіма.

«Дзявочкае свята» — такое абрадавае свята было вядома на Мядзельшчыне. Адзначалася праз тыдзень па Пакровах (да 21 кастрычніка).

17 (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля Айцоў Сёмага Сабора (Другога Шкейскага).*

18 (панядзелак). **Ун.** *Лукаш, апостал і евангеліст.*

19 (аўторак). **Кат.** *Дзень памяці пакутнікаў Яна і Паўла.*

20 (серада). **Пр.** *Сяргей.* У некаторых мясцовасцях прысвятак лічыўся пачаткам зімы.

21 (чацвер). **Пр.** *Трыфан і Пелагея* («Трыфан, Палагея зыркім ветрам вее», «Трыфан кажух латае, Палагея рукавічкі вяжа»).

23 (субота). **Пр.** *Яўлампій і Яўлампія.* Прыкмета на зіму: да позняй, калі рожкі месяца паказваюць на поўдзень, да суровай — калі рожкі месяца паказваюць на поўнач.

**Ун.** *Якуб, апостал і сваяк Господа.*

24 (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля 21-я пасля Сёмухі.*

**Кат.** *Марцін.* Прысвятак млынароў, адзначаўся на млынавым коле. У гэты дзень прадавалі і смажылі гусей («Марцін святы — губіцель гагаты»).

26 (аўторак). **Ун.** *Дзень памяці Зміцера-велікамучаніка* («Зміцер зямлю выцер, на груды пабіў, каб ніхто не хадзіў», «Да Змітра баба хітра»).

28 (чацвер). **Кат.** *Імяніны Сымона, Юды, Тадэвуша* («Сымон з Юдаю працу ў полі канчаюць, хату аглядаюць»).

**Ун.** *Параскева-мучаніца.* У гэты дзень забаранялася прасці, араць, выносіць попел з хаты і рабіць з яго шчолак для мыцця бялізны.

29 (пятніца). **Пр.** *Лонгін (Логін).* Збаўляе ад хвароб вачэй.

30 (субота). *Змітравы Дзяды, Змітраўка, Асяніна, Казанскія Дзяды* — дзень памінання продкаў. Да рэвалюцыі адзначалася праваслаўнай царквой у суботу, напярэдадні Змітровага дня, які прыпадаў па старому стылю на 24 кастрычніка (па новаму стылю — 8 лістапада). Аднак у Беларусі заўсёды існавала традыцыя адзначаць Змітравы Дзяды менавіта ў канцы кастрычніка ў праваслаўных і 2 лістапада ў каталікоў. Сёлета на Беларусі Дзяды афіцыйна адзначаюцца 2 лістапада.

Адраджэнне традыцыі адбылося ў 1988 г., калі БНФ «Адраджэнне» пры падтрымцы грамадскасці сталіцы наладзіў мітынг-рэквіем на Усходніх могілках і ў Курапатах. Дзяды — перажытак культу продкаў у славян. Людзі верылі, што душа чалавека пасля смерці, перш чым пайсці ёй у рай ці пекла, доўга блукае па свеце і патрабуе ежы і пітва. Таму ладзіліся памінальныя сталы (трызны) на шосты, дзевяты і саракавы дзень, а таксама ў гадавіну смерці. На жалобны стол ставіліся куцця, клёцкі, бліны, гарэлка. Набожнікаў клікалі да сябе так: «Святыя Дзяды! Завём вас, хадзіце да нас».

Дзяды адзначаюцца вясною, летам, увосень і зімою. Асенняя лічацца галоўнымі. Ёсць звычай нічога не прыбіраць са стала пасля жалобнай вячэры, каб «дзядам» было што есці, калі яны збяруцца ўначы. Пра Змітравы Дзяды таксама казалі: «Жылі дзяды — не бачылі бяды, а ўнукі набраліся мукі».

31 (нядзеля). **Пр.** *Лука (Лукаш).* Прысвятак сялянскіх іканапісцаў. Лічыўся неспрыяльным для сяўбы азімых. На Палессі казалі: «Хто сее да Лукі, то не будзе мець хлеба, ні мукі».

*Юльян,* ахоўнік дзяцей.

**І. К.**

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**2 КАСТРЫЧНІКА, СУБОТА**

**11.15. Паказвае Гродна. «Гарадніца». Літаратурна-мастацкая праграма.**
**14.00. Топ-агент. Музычная праграма.**
**14.55. Тэлебом. Гала-канцэрт пераможцаў шоу-конкурсу ў Мазыры.**
**17.50. З гісторыі Беларусі. «Крэва», «Морына». Кінанарысы.**
**21.00. Панарама.**
**23.05. НІКа.**

**3 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ**

**11.15. А. Бандарэнка. «Князь Наваградскі». Спектакль Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.**
**13.55. Тэлебом. Гала-канцэрт пераможцаў шоу-конкурсу ў Мазыры.**
**18.00. Метраном. Музычна-публіцыстычная праграма.**
**20.00. Панарама.**


Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 290.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 7226 паасобнікаў. Падпісана ў друк 27.09.1993 г. у 15 гадзін.